І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Чэрвень 2014

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага регіёну**




стар. 2

## Праца ФК «Гомель» ушанаваная 2-ім месцам на фестывалі рэкламы «Adnak»

**Старшыня Гомельскага аблвыканкама папярэджаны аб няпоўнай службовай адпаведнасці**

стар. 2

**Оны самі: двух хлопцаў у адной вёсцы знайшлі нежывымі ў адзін дзень**

стар. 4

**У новым супермаркеце ў Светлагорску абваліўся навес. Пяцёра параненых**

стар. 7

# Праца ФК «Гомель» ушанаваная 2-ім месцам на фестывалі рэкламы «Adnak»

***Праграмка ФК «Гомель» заняла 2-е месца на Пятым фестывалі беларускамоўнай рэкламы і камунікацыі AD.NAK!***

Праект «Вялікі і магутны клуб, вялікая і магутная мова!» аўтарства Ігара Случака, Змітра Крышталёва і Юрыя Крышнёва заняла другое месца ў намінацыі «Грамадсказначныя праекты», абагнаўшы «Саламянную Камасутру».




Гран-пры ў гэтай намінацыі ўзяў праект »Мова Нанова», бясплатныя курсы беларускай мовы Глеба Лабадзенкі і Алесі Літвіноўскай.

*nn.by*

# Кіраўнік дзяржпрадпрыемства дапамог бізнэсоўцу тэхнікай — цяпер можа сесці за краты Бухгалтэрыя не далічылася 280 мільёнаў.

***Завершана расследаванне крымінальнай справы супраць былога гендырэктара Мазырскага райжылкамгаса. Яму інкрымінуецца злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, што пацягнула шкоду ў асабліва буйным памеры.***

«Следствам устаноўлена, што ў перыяд са снежня 2011 па снежань 2012 абвінавачаны ў інтарэсах камерцыйнай структуры, якая займаецца ландшафтным дызайнам, у парушэнне заканадаўства заключыў з ёй шэраг дамоў на правядзенне рамонтных і будаўнічых работ. Загадзя ведаючы, што ўмовы дамоваў не выкананы, насуперак інтарэсам службы аплату за працу прыватнаму прадпрыемству пералічыў у поўным аб'ёме», — паведаміла прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Таксама гендырэктар неаднаразова бескаштоўна выдзяляў тэхніку прадпрыемства для патрэбаў гэтай прыватнай фірмы — праз прыяцельскія адносіны з яе кіраўніком. Агульная сума шкоды пацягнула на 280 мільёнаў рублёў. Абвінавачаны ўсё суму выплаціў падчас следства. Справа перададзена пракурору для накіравання ў суд.

*nn.by*

Танчы так, быццам на цябе ніхто не глядзіць. Спявай так, быццам ніхто не чуе. Глядзі на кандуктара так, быццам ты ўжо аплаціў за праезд.

# Старшыня Гомельскага аблвыканкама папярэджаны аб няпоўнай службовай адпаведнасці

***Старшыня Гомельскага аблвыканкама Уладзімір Дворнік «за патуранне, дапушчаныя недахопы і пралікі ў кадравай працы, непрыманне належных мер па выкананні заканадаўства аб дзяржаўнай службе і барацьбе з карупцыяй» папярэджаны аб няпоўнай службовай адпаведнасці.***

Адпаведнае распараджэнне Аляксандр Лукашэнка падпісаў 5 чэрвеня, паведаміла прэс-служба прэзідэнта.

19 мая былі затрыманы першы намеснік старшыні аблвыканкама Віктар Банчук і намеснік старшыні Віктар Трызна. Яны абвінавачваюцца ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі.

Банчук і Трызна былі прызначаны на свае пасады адначасова — 28 снежня 2012 года. Банчук раней узначальваў Рагачоўскі райвыканкам, Трызна працаваў на пасадзе кіраўніка справамі Гомельскага аблвыканкама.

У аблвыканкаме Банчук курыраваў пытанні развіцця аграпрамысловага комплексу вобласці, харчовых рэсурсаў, вытворчасці і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі і г. д. Непасрэдна ў яго падпарадкаванні знаходзіліся камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванні і землеўпарадкавальная служба.

Трызна курыраваў пытанні ідэалагічнай працы, аховы здароўя, фармацыі, адукацыі, культуры, спорту і турызму, СМІ. Чыноўнік узначальвае камісію па садзейнічанні ў забеспячэнні правоў ахвяраў палітычных рэпрэсій 20—80-х гадоў XX стагоддзя і ўвекавечанні іх памяці, а таксама камісію па супрацьдзеянні карупцыі ў Гомельскім аблвыканкаме.

Уладзімір Дворнік быў прызначаны кіраўніком Гомельскай вобласці 29 снежня 2010 года.

*БелаПАН*

# Гомельскі доктар прадаваў бальнічныя за мяса і ласункі — чатыры гады зняволення

***Набыў моц прысуд у дачыненні да доктара агульнай практыкі, які браў хабар за выдачу лісткоў часовай непрацаздольнасці.***

Абвінавачваны прыгавораны да чатырох гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць арганізацыйна-распарадчыя і адміністрацыйна-гаспадарчыя пасады на пяць гадоў.

Як паведаміў БелаПАН памочнік пракурора Гомельскага раёна Кірыл Кадоўба, медыцынскі работнік быў затрыманы ў жніўні 2013 года, крымінальная справа налічвае 14 эпізодаў. 56-гадовы ўрач агульнай практыкі, працуючы ў філіяле паліклінікі, гандляваў бальнічнымі. Пэўнай таксы за паслугі ў яго не было, не грэбаваў абвінавачваны браць у кліентаў прадукты харчавання, да прыкладу тры кілаграмы мяса за лісток непрацаздольнасці, або спіртное — піва і гарэлку. Не адмаўляўся і ад цукерак.




На судзе віну сваю доктар не адмаўляў, тлумачыў, што выдачай лісткоў непрацаздольнасці «хацеў дапамагчы людзям».

Кліенты ж прасілі ў яго бальнічныя, каб з'ездзіць у адпачынак, у вясельнае падарожжа або проста адпачыць дома.

Абвінавачваны абскардзіў прыгавор, але суд пакінуў яго ў сіле.

Нагадаем, у красавіку 2014 года ўрач са Жлобіна атрымаў шэсць гадоў турмы за гандаль бальнічнымі. Абвінавачаны на працягу двух гадоў прадаваў бальнічныя лісты работнікам Беларускага металургічнага завода. Усяго ў судзе былі разгледжаны 44 факты дачы хабару. Расцэнкі ў неўролага са Жлобіна раслі разам з курсам валюты. Так, у 2010 годзе аформіць сабе часовую непрацаздольнасць можна было за 50 тысяч рублёў, а ў 2012 годзе кошт дамашняга адпачынку каштаваў ужо 150 тысяч.

*БелаПАН*

# Смерць хлопчыка ў Гомельскім раёне стала вынікам службовай халатнасці Завершана праверка смерці малалетняга.

***Смерць хлопчыка ў Гомельскім раёне стала вынікам службовай халатнасці.***

19 красавіка дзіця звалілася ў ачышчальнае збудаванне і патанула. Цяпер заведзена крымінальная справа на службовую асобу фірмы, на тэрыторыі якой здарылася трагедыя. Яе вінавацяць у службовай халатнасці.

«Следствам выяўлена, што ачышчальныя збудаванні, якія знаходзяцца на тэрыторыі ТАА «Гомель-Лада», працяглы час не эксплуатаваліся. Аднак аб'ект не быў закансерваваны. Не былі прынятыя меры да ўстаноўкі агароджы, што перашкодзіла б доступу да рэзервуара»,

— паведаміла прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Нагадаем, у той дзень бацька з сынам заехаў на аўтарынак на 9-м км Чарнігаўскай шашы. Пакуль мужчына набываў запчасткі, хлопчык адышоўся. Калі яго пачалі шукаць, цела дзіцяці ўбачылі ў вадзе. Дастаць сам бацька яго не здолеў — было глыбака. Давялося выклікаць ратавальнікаў.

*nn.by*

# Оны самі: двух хлопцаў у адной вёсцы знайшлі нежывымі ў адзін дзень

***Вёска Сярэднія Печы. Не вялікія і не малыя — Сярэднія. І ў той сярэдняй вёсцы — два нябожчыкі. Не на Данбасе, не ад рук тэрарыстаў — Лельчыцкі раён, Палессе.***

Ад Мінска да Сярэдніх Печаў — 300 км. Дарога ляжыць на Слуцк, Старобін, паварот перад Мікашэвічамі, пасля Жыткавічы… Па дарозе багатыя беларусы прадаюць лісічкі, клубніцы. І агуркі — побач Століншчына. Але Лельчыцкі раён — гэта не Заходняя Беларусь.

Раён — з глухіх. Тут жыве 27 тых тысяч чалавек (за апошнія 15 гадоў раён страціў амаль 5 тысяч). Але гэта другі па плошчы раён Беларусі (на першым месцы Столінскі).

Год таму ўрад заявіў пра стварэнне прамысловага парку «Палессе-Лельчыцы», каб у ім здабываць карысныя выкапні. Але планы ў жыццё пакуль не ўвасобіліся. Пакуль тут толькі балоты Прыпяцкага нацыянальнага парку.

*«Не п’яніцы такія, каб сказаць»*

Сярэднія Печы стаяць на дарозе Жыткавічы—Лельчыцы, за 18 км ад райцэнтра. На галоўнай вуліцы, забудаванай цаглянымі дамамі, мы шукаем прыкметы нядаўняга пахавання. Хаця б яловыя галінкі. Пуста.

«Чаго вы прыіхалі? У газету пісаць? Што тут разбірацца — оны самі… У іх канфлікт быў, — расказвае вяскоўка, тут гавораць пераходнай ад украінскай да беларускай гаворкай. — Што гэта за гора таке ў нашым сяле?»

Маладыя хлопцы — «яны не п’яніцы такія, каб сказаць. Ну, бывае, вып’юць».


Квітнеюць людзі нашай краіны

Хлопцы павесіліся ў розныя дні. І не звязаныя іх смерці паміж сабой. Знайшлі проста ў адзін дзень: аднаго ў сваім двары, другога — у жанчыны.

*22 і 23*

Андрэю было 22 гады, Мікалай толькі 3 чэрвеня сустрэў 23-ці дзень нараджэння.

Малодшы вучыўся ў Мазыры ў педуніверсітэце, старэйшы працаваў трактарыстам у мясцовай гаспадарцы.

«Маці напісала заяву — няма хлопца з нядзелі. А мы на Тройцу сядзелі [8 чэрвеня], Андрэй праходзіць: «Здрасце». Ідзе той стараной, зноў здароваецца. Я кажу: «Во, зноў здароваецца». А ён: «Лепш сто разоў». Сапраўды, лепш сто, чым ні разу. Вечарам не прыйшоў дамоў, у панядзелак няма. А ўчастковы кажа: «Трэба ў сваім селішчы глядзець». Адкрываюць сенавал — кароў не трымаем, — а ён вісіць… Павезлі ў Мазыр на ўскрыццё…

Тут павазілі па сяле нябожчыка, як паложана, а ў хату ўжо не заносілі. Ён такі цёмны быў, а чаго ў яго так валасы пабялелі. Столькі грыму наклалі на твар — як маска. Але ўсё адно трупныя плямы былі. І яму ніяк 20 гадоў не дасі — быццам стары 90-гадовы».

Хлопцаў пахавалі ў адзін дзень, 11 чэрвеня. Спачатку Мікалая вяскоўцы правялі. А пасля Андрэя. Што магло такіх маладых штурхнуць на самагубства? На вёсцы нічога не схаваеш ад людзей.

*Жыў з жанчынай старэйшай*

«Коля з жанчынай старэйшай жыў. У яе дочкі дарослыя — адна ў 11-м класе, адна ў 10-м, адна мо ў 7-м. Кажуць, што яна яго рэчы сабрала, каб дадому ішоў.

Бо яго міліцыя спаймала, нецвярозы быў — 7 мільёнаў штрафу далі. Ён узяў сабе нешта да галавы. Так людзі кажуць, а я не бяру судзіць… Гэта і не з-за жанчыны, я б сказала. Мала што скандалы ў хаце бываюць. Але яна была на паха-

ванні. Хаця бацькі не задаволеныя былі, — дзеляцца вяскоўцы.

— А другі, Андрэй, і на работу быў уладкаваны ўжо. Ён у інстытут быў паступіў. Мо дзве сесіі здаў. А пасля сказаў, што кіне — кінуў і паехаў на заробкі з сябрам. За месяц зарабілі дзесьці па 10 мільёнаў. Прыехалі. Той Андрушка прагуляў свае.

Бацька яго дамоў не пускаў. Казаў, каб ішоў куды хоча. Маўляў, 10 мільёнаў было — хоць бы мацеры даў трохі. А бацька яго такі самастойны, ён з такой радні — з кулакоў колішніх. Яны добра жывуць…»

Кіруемся на могілкі. Яны ў ляску.

Самагубства — вялікі грэх. Таму святары не адпявалі нябожчыкаў. Нашы продкі самагубцаў і хавалі за межамі могілак. Сёння так, здаецца, нідзе не робяць. Дзве свежыя магілы сярод свайго роду ляжаць.

Праверка ў Следчым камітэце яшчэ працягваецца.

*Па 14 мільёнаў палучаюць*

Вяскоўцы не бачаць нечага глыбейшага за здарэннем — «проста так супала».

«Вёска вялікая. 382 чалавекі, — расказвае жыхарка Валянціна Ігнаценка. — 79 пенсіянераў. А дашкольнага і школьнага ўзросту — мо 109. У Сімавічы і ў Дуброву ў школу ходзяць, і ў нас — у дзевяцігодку. Ужо хацелі закрыць, але не. У нас падтрымка (смяецца): быў настаўнікам у нас у школе — цяпер намеснік старшыні райвыканкама. Нармальна ў нас і моладзі. Яшчэ ў нас вёска не заглохла, хороша гуляюць, як збяруцца на танцы. І ўсе пры рабоце. Хто на «Аграсэрвісе», хто ў Лельчыцах. Хто вучыцца. А чалавек 5—10 нідзе не працуюць. Як і паўсюль. Бацькоў-пенсіянераў чавяць: за глотку — давай грошы…»

— Калі чалавек п'е — жонка робіць, калі жонка п'е — чалавек робіць. У «Аграсэрвісе» ў нас найбольшыя заробкі па раёне. Ленка, колькі ты палучаеш даяркай? — звяртаецца Валянціна Цімафееўна да жанчыны, што стаіць побач.

— Сем мільёнаў.

— Па 12, па 14 палучаюць! У нас комплекс пабудавалі, што зімой падлога з падагрэвам. Я была на экскурсіі. Там такая прыгажосць. Сядзіш — і неба бачыш праз столь.

— У горадзе столькі не плацяць, — заўважаю.

— А што яны ў горадзе робяць?! — рэзонна адказвае жанчына.




*Статыстыка*

Кажуць, што адна смерць — гэта трагедыя, а дзве смерці — гэта ўжо статыстыка. І тая статыстыка злая. Па колькасці суіцыдаў Беларусь была то на шостым, то на сёмым месцы ў свеце.

Гадоў пяць таму быў пік гэтай бяды, пасля лічба пачала зніжацца. Але і цяпер штогод па сваёй волі сыходзіць з жыцця каля дзвюх тысяч чалавек. А бывалі гады, калі і 3500…

Самагубцаў-мужчын у 6 разоў больш, чым жанчын. У вёсцы працэнт суіцыдаў у 2,6 раза большы, чым у горадзе. Такім чынам, Сярэднія Печы, насамрэч сярэднія.

І зарабляць у людзей ёсць магчымасць. Сем, чатырнаццаць мільёнаў — не штука. Значыць, не толькі ў заробку справа. Пытанне яшчэ ў тым, каб у чалавека былі іншыя прынцыпы ў галаве і іншыя магчымасці ў жыцці, свядомасць, нейкая мара, калі хочаце. Каб яго не на гарэлку і смерць быў настрой, а на самарэалізацыю.

* * *

*«Мы былі друіды»*

«Вёска раней называлася Сінькі. І мы не называліся беларусамі, а былі друіды, — праявяла вясковы лікбез Валянціна Цімафееўна. — Пасля Сярэднія Печы. У нас печка была там, дзе калгас, — драўняны вугаль абпальвалі. Печ там (паказвае ў іншы бок) — шэрую гліну капалі (Ставок). А ў Дубраўцы печ была — белую гліну капалі. А ў сярэдзіне мы — Сярэднія Печы. З вайны пачалі так называць. А ў вайну вёску спалілі, і ўсе па хутарах жылі. А пасля пачалі сюды збірацца».

*Сяргей Макарэвіч, Мінск — Сярэднія Печы*

# Хлопец пад наркатой забіў 19-гадовую дзяўчыну для «задавальнення палавой жарсці» Скончана расследаванне жорсткага забойства.

***Хлопец пад наркатой забіў 19-гадовую дзяўчыну для «задавальнення палавой жарсці»***

Труп Алесі знайшоў вартаўнік каля 6.30 раніцы 29 жніўня 2013 каля рэчыцкага Дома творчасці моладзі. На целе забітай эксперты выявілі шматлікія пашкоджанні, у тым ліку сляды ад удараў. У той жа дзень быў затрыманы 19-гадовы раней неаднаразова судзімы мясцовы жыхар.

Забітая Алеся працавала ў рэстаране «Палессе» кандытарам. У тую ноч яна вярталася з дня нараджэння. Правесці яе ўзяўся знаёмы хлопец. Яна была з вёскі Крынкі каля Рэчыцы, дзе жывуць бацькі.




Цяпер следчыя скончылі расследаванне, хлопец знаёміцца з матэрыяламі справы. Ён абвінавачваецца ў забойстве з асаблівай жорсткасцю, злосным хуліганстве, крадзяжы, наўмысным нанясенні цяжкага цялеснага пашкоджання, рабунку, дзеяннях сэксуальнага характару. Аказалася, што ён быў напад-пітку і пад наркатой, калі праводзіў Алесю.

«Абвінавачаны з мэтай задавальнення сваёй палавой жарсці з садысцкіх схільнасцяў пачаў наносіць шматлікія ўдары па целу дзяўчыны, пасля чаго насуперак яе волі здзейсніў у адносінах да яе іншыя дзеянні сэксуальнага характару»,

— паведамілі ў Следчым камітэце. І працягваў біць дзяўчыну: пашкоджанні сталі прычынай смерці. Пасля гэтага ён скраў яе рэчы.

Падчас расследавання было праведзена больш за 40 экспертыз. Следчыя таксама выявілі факты іншых злачынстваў, якія абвінавачаны здзейсніў з іншымі асобамі. Знаходзіцца пад вартай.

*nn.by*

# Гаспадар пакурыў пры замене газавага балона — тры чалавекі шпіталізаваныя

***Жыхар Гомельскага раёна курыў пры замене газавага балона, у выніку чаго пацярпелі тры чалавекі.***

Як паведамілі БелаПАН у Гомельскім абласным упраўленні МНС, 16 чэрвеня ратавальнікам паступіла паведамленне пра пажар у пасёлку Асовіна Гомельскага раёна. Веранда жылога драўлянага дома гарэла адкрытым полымем.

Гаспадар дома праводзіў работы па замене газавага балона і курыў пры гэтым.

Пры адкрыцці балона адбылася ўспышка з наступным гарэннем газапаветранай сумесі. У выніку пажару пацярпелі сам гаспадар дома 1942 года нараджэння, яго жонка 1936 года нараджэння і дачка 1968 года нараджэння. Усе пацярпелыя з апёкамі I—III ступені шпіталяваныя.

Са слоў суседзяў, сям'я характарызуецца станоўча, спіртнымі напоямі не злоўжываюць. У выніку пажару пашкоджаны дах дома, столевае перакрыцце, маёмасць.

*nn.by*

# Жыхара Брэста, які сядзеў 15 гадзін у Гомелі на вышцы, прыцягнуць за дробнае хуліганства

***На жыхара Брэста, які 3-4 чэрвеня прасядзеў на 36-метровай асвятляльнай апоры на гомельскім чыгуначным вакзале 15 гадзін, супрацоўнікамі АУС на транспарце складзены адміністрацыйны пратакол па артыкуле 17.1 КаАП (дробнае хуліганства).***

Як паведамілі БелаПАН у гомельскім АУСТ, дробнае хуліганства ў дадзеным выпадку падпадае пад фармулёўку артыкула 17.1 «… іншыя наўмысныя дзеянні, якія парушаюць грамадскі парадак, дзейнасць арганізацый або спакой грамадзян». Парушальніку пагражае штраф ад 2 да 30 базавых велічынь або арышт.

Пакуль жа жыхар Брэста Аляксей праходзіць даабследаванне у Гомельскай абласной псіхіятрычнай бальніцы, дзе прабудзе як мяркуецца, да пятніцы 6 чэрвеня. Паводле папярэдняй інфармацыі, відавочных псіхічных адхіленняў у маладога чалавека лекары не выявілі.

Нагадаем, 33-гадовы мужчына забраўся на асвятляльную апору на чыгуначным вакзале ў Гомелі 3 чэрвеня прыкладна ў 11.30. Ён правёў там каля 15 гадзін. Берасцеец спусціўся каля 2 ночы пасля таго, як яго папрасіла зрабіць гэта сястра, якая прыехала з Брэста разам з цёткай.

Да прыезду родных мужчыну спрабавалі ўгаварыць спусціцца ўніз каля 15 гадзін. З ім працаваў псіхолаг МНС, яе да мужчыны ўздымалі на адмысловай аўталесвіцы. Аднак берасцеец не рэагаваў, не выстаўляў ніякіх патрабаванняў, не адказваў. Пад вышкай усталявалі выратавальны куб. Таксама прыехалі прадстаўнікі мясцовай улады, хуткая дапамога і міліцыя.




У 23.30 прыбылі сваякі, падняліся да мужчыны ў калысцы аўталесвіцы МНС і размаўлялі з ім. У выніку той самастойна спусціўся на зямлю ў пачатку трэцяй гадзіны ночы.

*БелаПАН*

# У новым супермаркеце ў Светлагорску абваліўся навес. Пяцёра параненых

***Абрушэнне канструкцыі ў адкрытым тры дні таму суперсторы «Родная сторона плюс» здарылася 30 чэрвеня ў Светлагорску.***

Як паведаміў БелаПАН прэссакратар МНС Віталь Навіцкі, званок у Светлагорскі РАНС паступіў у 16.42, ратавальнікі былі на месцы здарэння праз тры хвіліны. Абваліўся гіпсакардонны падвясны казырок для рэкламы і падсветкі ўнутры магазіна.

У прыёмнае аддзяленне мясцовай бальніцы дастаўлены пяць чалавек: дзве жанчыны і трое дзяцей. У дзяцей — рэзаныя раны, удары і драпіны, у жанчын — чэрапна-мазгавыя траўмы, гематомы і іншыя пашкоджанні. Адміністрацыя магазіна эвакуіравала каля ста чалавек.

Як паведамляў сайт гандлёвай сеткі «Родная сторона», першы ў Гомельскай вобласці суперстор адкрыўся 27 чэрвеня ў Светлагорску па адрасе Шасейная, 1. У гандлёвым аб'екце плошчай 1.800 квадратных метраў рэалізуюцца харчовыя і нехарчовыя тавары.

«Адкрыццё суперстора «Родная Сторона плюс» стала доўгачаканай падзеяй для ўсяго горада і сапраўдным святам для ўсёй сям'і, бо кожны мог знайсці сабе нешта па душы! Мы ўпэўненыя, што суперстор «Родная Сторона плюс» стане любімым магазінам для многіх жыхароў Светлагорска!» — так прэзентаваў новы магазін афіцыйны сайт сеткі «Родная сторона».

Гандлёвую сетку «Родная сторона» развівае кампанія «СТАА «НТС». У сетку ўваходзяць больш як 90 магазінаў.

*БелаПАН*

# Гамяльчук браў у рамонт аўтамабілі, прадаваў і так ашукаў кліентаў на 650 млн рублёў

***Пракуратура Гомельскага раёна 2 чэрвеня накіравала ў суд крымінальную справу ў дачыненні да 26-гадовага жыхара Гомеля, які абвінавачваецца ў махлярстве.***

Грамадзянін ашукаў даверлівых грамадзян на 650 млн. рублёў. Па справе праходзяць 15 пацярпелых. Як паведаміў БелаПАН пракурор Гомельскага раёна Уладзіслаў Журакоўскі, малады чалавек арандаваў гараж, браў у рамонт аўтамабілі, прысвойваў папярэднюю аплату, запчасткі і затым прадаваў транспартныя сродкі. На адным з чужых аўтамабіляў аўтаслесар без вадзіцельскіх правоў паехаў катацца п'яным і быў затрыманы супрацоўнікамі ДАІ, чым дадаў у свой паслужны спіс яшчэ адзін артыкул Крымінальнага кодэкса.

Разам з папярэдняй аплатай ён узяў у рамонт дзевяць аўтамабіляў, тры з іх паспеў прадаць.

Кліентам ён абяцаў хуткі рамонт і афарбоўку, даваў распіскі, а тым часам размяшчаў аб'явы ў газетах і прадаваў аўтамабілі па заніжанай цане. Пакупнікам жа, узяўшы грошы за аўтамабіль, абяцаў пазней пераафарміць дакументы. Нашкодзіў махляр і гаспадару гаража, выкраўшы ў яго інструменты для рамонту.

У 2011 годзе гамяльчанін быў асуджаны за аналагічныя злачынствы. Вызваліўшыся ў жніўні 2013 года, тут жа вярнуўся да прывычнай справы.

Дзякуючы супрацоўнікам СК і міліцыі пацярпелым вернута маёмасць і грошы ў агульнай суме на 522 млн. рублёў, астатнія грошы абвінавачваны зрасходаваў на ўласныя патрэбы.

«Умовай, што спрыяла ўчыненню злачынства, стала жаданне грамадзян танней адрамантаваць аўтамабілі. Пацярпелыя звярталіся не ў спецыялізаваныя аўтасэрвісы, дзе афармляюць дагаворы і даюць гарантыю, што і пацягнула праблемы ў іх і магчымасць узбагаціцца за чужы кошт у абвінавачванага», — адзначыў Журакоўскі.

*БелаПАН*

## З 13 чэрвеня БЧ арганізуе беспerasадачныя зносіны

## Мінск — Гомель — Адлер

***Беларуская чыгунка з 13 чэрвеня арганізуе бесперасадачныя зносіны Мінск — Гомель — Адлер, паведамілі ў прэс-службе БЧ.***

Прызначана бесперасадачная група вагонаў у складзе цягніка № 676 Мінск — Гомель, якая будзе адпраўляцца са сталіцы праз дзень па няцотных датах і прычапляцца ў Гомелі да цягніка № 376 Гомель — Адлер. У зваротным напрамку бесперасадачныя вагоны прызначаны ў складзе цягнікоў № 375 Адлер — Гомель і № 675 Гомель — Мінск.

Бесперасадачныя вагоны будуць рухацца па тэрыторыі Беларусі і Расіі.

Час іх адпраўлення са станцыі Мінск-Пасажырскі — 9.50, прыбыцця ў Адлер — па няцотных днях у 11.46. У зваротным напрамку бесперасадачныя вагоны будуць адпраўляцца з Адлера ў 16.29 і прыбываць у сталіцу Беларусі ў 17.59.

*БелаПАН*




M&S MEDIA
Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Чэрвень 2014»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva
**Вольга Пыхава:** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA